ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

двухтыднёвая часопісь для меншых дзяцей

1933 г. № 1

ГОД ВЫДАНЬНЯ 5

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

# ЗАМЕНІМ МЫ ЯГО

ВЕРШ М. КАЛАЧЫНСКАГА

Трашчаў тады мароз,
Халодны быў той час,
Як тэлеграф прынёс:
„Ня стала Ільліча"...

Памёр наш правадыр...
З Масквы халодны сум
Нямыя правады
Ва ўсе куткі нясуць:

„Няма яго цяпер,
Хто вёў нас шмат гадоў.
Ня плакаць, піанэр!
Вучыцца, будзь гатоў!"

Над морам, над тайгой
Напевы ўсё гучаць:
„Заменім мы яго—
Заменім Ільліча!"



# З ЖЫЦЬЦЯ У. І. ЛЕНІНА

**1870 год**

Уладзімер Ільліч Ленін нарадзіўся 23 красавіка 1870 г. у г. Ульянаўску (тады ён называўся Сімбірск). Бацька Ўладзімера Ільліча быў інспэктарам народных школ. Калі Леніну было 5 гадоў, ён умеў ужо чытаць.

**1887 год**

У 1887 годзе Ленін вучыўся ў апошняй клясе гімназіі. У гэты час за ўдзел у замаху на цара быў арыштаваны яго старэйшы брат Аляксандар, якога Ленін вельмі любіў.

І Аляксандар быў павешан.

Тады сказаў Ільліч:

— Брат, мы ў гэтай справе замяніць цябе гатовы. Пераможам, але мы пойдзем другім шляхам.

### 1905 год

9-га студзеня ў 1905 годзе рабочыя пайшлі да цара прасіцца, каб ён палепшыў іх цяжкае жыцьцё. Цар сустрэў рабочых кулямі. Зразумелі тады рабочыя, што чакаць дапамогі ад цара нельга. Трэба змагацца са зброяй у руках супроць цара, памешчыкаў і капіталістаў.

Ільліч штодня праводзіць з рабочымі ўвесь 1905 год. Вядзе ход усяго паўстаньня.

У Маскве рабочае паўстаньне задушана.

Меншавікі гаварылі:

— Ня трэба было брацца за зброю — час нязручны. Пачакаць трэба было.

Ленін ім у адказ:

— Не, за зброю брацца трэба, толькі больш рашуча і энэргічней.

### 1914 год

Абвешчана вайна. Мільёны людзей забіваюць адзін аднаго па загаду капіталістаў.

Ленін з партыяй бальшавікоў узьнімае голас супроць вайны і кідае кліч:

*„Ператварыць вайну імпэрыялістычную ў вайну грамадзянскую!“*

### У Ільліча перад Кастрычнікам

1917 год. На дварэ сьлізкі кастрычнік. Смольны гудзе баявым жыцьцём.

Едзем... да яго...

Аўтамабіль спыніўся. Ідзём яшчэ крыху пяшком. На наш стук у дзьверы невялікага доміку — адчыняюць.



У. І. ЛЕНІН і Я. В. СТАЛІН у Горках (ліпень 1922 г.)

Чакаем у сьветлым пакойчыку нядоўга, гутарым аб сім-тым з гаспадаром — здаравенным рабочым.

Уваходзіць, адзеты па звычайнаму, сівенькі дзядок, з акулярамі — вочы ўсьмешкаю зіхцяць пад імі. Кравец ці букініст (гандляр кнігамі)... Парык, акуляры зьняты — наш Ільліч!

Кароткія нецярплівыя пытаньні:

— Як флёт? Колькі можа даць Піцер? А Кранштадт? Паўночны фронт? У Піцеры?

Нездаволены адказам. Дакарае, што з паўночным фронтам мала зьвязаны.

— Чаму матросы мала даюць?

— Баяцца, што астанецца мала на фронце.

— Хіба не разумеюць, што рэвалюцыя ў Піцеры ў большай небясьпецы, чым на фронце?

— Ня зусім разумеюць.

Цьвёрдым тонам гаворыць Ільліч:

— Адцягваць нельга. Трэба сабраць усе сілы. Зьезьдзіць на паўночны фронт—дагаварыцца аб падтрыманьні. І што-б там ня было ўзброіць рабочых. Часу ўжо няма.

## У дні Кастрычніка

Кастрычніцкая перамога каштавала многа рабоча-сялянскай крыві. Каля тыдня ішлі жорсткія баі з войскам контр-рэвалюцыі: юнкерамі, афіцэрамі і г. д. У гэтыя цяжкія дні Ільліч ня толькі кіраваў барацьбою, але і сам прымаў удзел у змаганьні з ворагамі. Аб гэтым апавядаюць таварышы, што працавалі тады з Ільлічом.

## Працаваў па-рэвалюцыйнаму

1918 год. У Архангельску перамаглі белагвардзейцы. У 3 гадзіны ночы пачуўся адзін з шматлікіх тэлефонных званкоў.

— Слухаю. Хто каля тэлефону?

— Гэта тав. Муралаў?

— Так, Муралаў.

— Гэта я, Ленін. Ёсьць у вас зараз гатовая да бою цяжкая артылерыя?

— Цяжкая артылерыя ёсьць, але трое сутак назад тры батарэі ў поўным складзе адпраўлены на Урал.

— Па якой дарозе адпраўлена артылерыя?

— Па Паўночнай—Масква,—Екацерынбург.

— Дзе, па вашай думцы, зараз знаходзіцца адпраўленая вамі артылерыя?

— Думаю, што падыходзіць да Вяткі.

— Прапаную вам зараз-жа гэтыя тры батарэі адшукаць у дарозе, вярнуць іх з Уралу і сьпешна паслаць пад Архангельск. Вы адказваеце за гэта сваёй галавой. У сем гадзін раніцы чакаю ад вас дакладу аб выпаўненьні загаду. Прыедзеце да мяне ў Крэмль, ці паведамеце мне па тэлефону. Усё. Ёсьць пытаньні?

— Пытаньняў няма, ваш загад будзе выкананы. Далажу ў сем гадзін раніцы.

Запрацавалі тэлефоны, тэлеграфы, мабілізаваны ўвесь штаб. К шасьці з паловай гадзінам ужо ўсё зроблена. Артылерыя накіравана на Архангельск.

Званок па тэлефону.

— Тав. Муралаў?

— Так, гэта я, Муралаў. Уладзімер Ільліч, артылерыя накіравана ў Архангельск у распараджэньне тав. Кедрава. Дакладна праверыў гэта сам. Адказваю галавою.

Радаснае і вясёлае:

— Дзякую. Галава ваша яшчэ патрэбна будзе. Толькі вось што: праверце яшчэ раз, паведамеце Кедраву і, калі атрымаеце ад яго адказ, паведамеце мне.

Так працаваў Ільліч: строга, дакладна, не шкадуючы нікога і нічога дзеля справы рэвалюцыі.

Быў строгі і дабрадушны, калі трэба было.

Працаваў па-рэвалюцыйнаму.

Будзем вывучаць яго, вучыцца ў яго. І працаваць, працаваць...



# першая пяцігодка выканана



Буржуй Крэмер—важная асоба. Ён кіруе Саюзам нямецкіх капіталістаў. Вось што сказала гэта „важная асоба“ ў 1929 годзе аб нашай пяцігодцы:

— Калі-б пяцігодка была закончана за 50 гадоў, дык гэта было-б вельмі добра. Але-ж гэтага ня можа быць.

Цікава-б паслухаць Крэмера цяпер. Мінула з таго часу не 50, а толькі чатыры гады.

І за гэтыя чатыры гады пляны першай пяцігодкі выкананы!

Здорава-ж пралічыўся буржуй Крэмер! І ня толькі Крэмер: пралічыліся і ўсе нашы ворагі.

Прымусіць-бы цяпер Крэмера пабыць хоць па адным дні на кожным новым савецкім заводзе, — прышлося-б яму патраціць на гэта 769 дзён! Гэтулькі мы пабудавалі новых фабрык і заводаў за... **пяцігодку ў чатыры гады.**

А калі-б паставіць нашы 150 тысяч трактароў адзін за другім ды прымусіць Крэмера паглядзець іх,—450 кілёмэтраў прышлося-б прашагаць Крэмеру. Завыў-бы Крэмер!

Але Крэмер і так ужо вые разам з капіталістамі ўсіх краін. Кепскія іх справы. Вось ужо чацьверты год, як коцяцца яны ўсё ўніз ды ўніз.

А мы расьцем і расьцем, цьвёрда шагаем наперад пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі.

Зараз мы маем свае машыны, трактары, аўтамабілі, маем усё, што нам патрэбна. А раней усякую нават дробязь мы куплялі ў буржуяў Крэмераў. Плацілі ім золатам.



Вёска зажыла па-новаму. Дзесяткі тысяч трактароў гудуць на калгасных палёх нашай краіны.

З гонарам папрацавалі нашы бацькі. Сотні тысяч іх сталі ўдарнікамі першай пяцігодкі і на заводах, і ў калгасах.

А зараз мы ўступілі ў другую пяцігодку сацыялістычнага будаўніцтва.

За другую пяцігодку мы павінны пабудаваць бяскласавую сацыялістычную грамаду.

У першыя гады другой пяцігодкі нам трэба асвоіць новыя заводы, навучыцца на іх добра працаваць, умацаваць калгасы і саўгасы.

Маўчыць цяпер Крэмер, як вады ў рот набраўшы. Ня каркае ён, як крумкач, на нашу другую пяцігодку. Маўчаць і іншыя нашы ворагі, бо самі ўбачылі: **першая пяцігодка выканана.**



І другая будзе выканана. СССР стане краінай сацыялізму.

# створанае першай пяцігодкай



## КАМБАЙН

**Камбайн**—слова замежнае. Яно азначае злучэньне дзьвёх машын—жняяркі і малатарні.

Цяжкую працу жней і малацьбітоў замяняе гэта машына. Яна адразу жне, малоціць, арфуе і ссыпае гатовае збожжа ў мяшкі.

Першы савецкі камбайн выпушчан 18-га верасьня 1929 году на Запароскім заводзе „**Камунар**“.

Цяпер камбайны вырабляюцца на трох заводах (**Запароскі**, **Саратаўскі**, **Растоўскі**).

11 тысяч 700 камбайнаў працавала летась на калгасных і саўгасных палёх. А ўсяго за пяцігодку савецкімі заводамі выпушчана 13 тысяч 500 камбайнаў.

У 1933 годзе нашы заводы павінны даць 14 тысяч новых камбайнаў.




# 175.000

Вялікіх перамог дасягнуў Савецкі Саюз за першую пяцігодку па вырабу трактароў. За гэтыя гады створана ўласная трактарная прамысловасьць.

Тры заводы (Харкаўскі, Сталінградзкі і „Чырвоны Пуціла-вец“) штодня выпускаюць зараз 200 трактароў.

За пяцігодку лік трактароў павялічыўся больш як у 5 разоў. Зараз мы маем 175 тысяч трактароў.

Пяцігодка па выпуску трактароў перавыканана.

У 1932 годзе Савецкі Саюз заняў першае месца ў сусьветнай гаспадарцы па выпуску трактароў. Амэрыка выпусьціла ў гэтым годзе 50 тысяч, а мы 50 тысяч 250 штук.

# сталёвая коньніца



14½ мільёнаў гаспадарак аб'ядналіся ў калгасы. Да канца першай пяцігодкі мы маем 211 тысяч калгасаў. У 6½ разоў павялічыўся лік калгасаў за першую пяцігодку.

Дзень і ноч гудуць ад раньняй вясны і да познай восені на саўгасных і калгасных абшарах трактары. 147 тыс. працавала іх сёлета на сацыялістычных палёх.

З казачнай хуткасьцю ўзрос лік МТС — машына-трактарных станцый. У пачатку пяцігодкі была толькі адна МТС і каля 150 трактарных калён, а зараз наша сельская гаспадарка мае ўжо 2498 МТС.



# 130 аўтамабіляў за дзень

У царскай Расіі было каля 9 тысяч аўтамабіляў. Большую частку іх прывезьлі з-за мяжы. Тады аўтамабіляў у Расіі амаль не выраблялі.

Цяпер мы маем 70 тысяч аўтамабіляў. Палавіна з іх зроблена на савецкіх заводах.

10 тысяч 300 аўтамабіляў працавала сёлета на саўгасных і калгасных палёх.

За пяцігодку лік аўтамабіляў павялічаны ў 4 разы. Зроблены новыя аўтамабільныя заводы: Горкаўскі, Маскоўскі і Яраслаўскі і два аўтамабільна-зборачныя (Маскоўскі і Горкаўскі). Яны выпускаюць цяпер штодня 130 аўтамабіляў.





# ЧЫГУН

За першую пяцігодку Савецкі Саюз заняў другое месца ў сусьветнай гаспадарцы па выплаўцы чыгуну. (Першае месца належыць Амэрыцы). Да пачатку пяцігодкі мы займалі шостае месца.

40 доменных печаў уступілі ў строй за пяцігодку. Цяпер мы маем 102 домны. Усе яны працуюць, усе выплаўляюць чыгун для сацыялістычнага будаўніцтва.

# электрычнасьць



За першую пяцігодку дзесяткі новых электрычных станцый уступілі ў строй сацыялістычнага будаўніцтва. Адна з гэтых станцый, — ДНЯПРОЎСКАЯ займае першае месца ў сьвэце па сваёй магутнасьці.

Пяцігодка па электратэхнічнай прамысловасьці выканана за тры гады

Лямпачкі Ільліча замянілі лучыну ў самых далёкіх ад гораду калгасах, вёсках. Электрычны ток замяніў на многіх заводах і фабрыках вугаль, дровы.





# наш паравоз ляціць наперад

Расьце і шырыцца сталёвая сетка чыгунак. Неабсяжныя прасторы Савецкага Саюзу падпяразваюцца новымі шляхамі.

5 тысяч 500 кілёмэтраў пракладзена новых рэек у краіне Саветаў за першую пяцігодку.

3 тысячы 700 новых магутных паравозаў атрымала за першую пяцігодку наша чыгунка.

98 тысяч таварных і 4 тысячы 500 пасажырскіх новых вагонаў уступілі ў строй чыгуначнай гаспадаркі.

У параўнаньні з 1913 годам у тры разы павялічыўся грузазварот у нашай краіне.



# Краіна суцэльнай пісьменнасьці



Царская Расія была самай някультурнай краінай. Мільёны людзей ня ўмелі нават чытаць і пісаць. Пачатковых школ было мала, а ў сярэдніх і вышэйшых школах навучаліся толькі дзеці багатых.

Гэта спадчына даўно ўжо загінула. Каля 60 мільёнаў чалавек ліквідавалі сваю няпісьменнасьць за чатыры гады першай пяцігодкі. У краіне Саветаў граматнасьць дасягнула 97 проц. Уведзена ўсеагульнае сямігадовае навучаньне для дзяцей.




Шырокую магчымасьць культурнага разьвіцьця атрымалі нацыянальныя меншасьці, якія раней прыгняталіся царызмам. Яны цяпер маюць свае кнігі і вучацца на роднай мове.

Вялікую ўвагу дзяржава аддае дашкольнаму выхаваньню. З кожным годам узрастае лік ясьляў, дзіцячых садоў.

# УДАРНІКІ ПЕРШАЙ ПЯЦІГОДКІ



*Тав. НЕСЬЦЮК І. В.—адзін з лепшых ударнікаў кацельнага цэху заводу імя Варашылава. Працуе на заводзе пяць гадоў. Вытворчы стаж — 28 гадоў. Два разы прэміяваны.*

*Тав. ЯУСУЦІНА — адна з лепшых ударніц швэйнай фабрыкі „Кастрычнік". Працуе брыгадзірам. На фабрыцы — 4-ты год. Выхаванка дзіцячага дому, камсамолка.*





*Тав. КУКСА ТРАХІМ—адзін з лепшых ударнікаў калгасу імя Леніна, Аршанскага раёну.*




Апавяданьне М. БАГУНА
Малюнкі В. ВОЛКАВА

**Да рэвалюцыі Беларусь зусім ня мела добрых дарог. Сотні гадоў гаравалі людзі, праклінаді дарогі.**

**А зараз у нас добрая дарога—не навіна. Многа пракладзена добрых брукаваных дарог—шашы—за першую пяцігодку. Нядаўна была адкрыта адна з вялікіх новых дарог МЕНСК—ВОРША.**

**У другой пяцігодцы дарожнае будаўніцтва будзе разгорнута яшчэ шырэй.**

Мікола Антановіч зьбіраўся ехаць у мястэчка на калгасны кірмаш. Устаўшы досьвіткам, ён засыпаў каню аўса і добра агледзеў калёсы. Калёсы стаялі пад павецьцю. На іх ляжалі падрыхтаваныя яшчэ з вечара асьміна бульбы і мех жыта. Бульбу Мікола хацеў прадаць на кірмашы, а жыта—змалоць у млыне.

Напаіўшы каня і памазаўшы восі густой чорнай каламазьзю, Мікола запрог каня ў калёсы. Потым, перад тым, як ад'яжджаць, заскочыў на хвіліну ў хату.

— Ну, Марыля,—гукнуў ён да жонкі, якая завіхалася каля печы, рыхтуючы сьнеданьне,—я паехаў!

Марыля, высокая маладая жанчына, Міколава жонка, падала мужу торбачку з хлебам і салам на дарогу, і заклапочана спыталася:

— А ты-ж не забыўся, што трэба купіць у мястэчку?

— Ну, што ты?—усьміхнуўся Мікола. — Каб я ды забыўся: газы трэба купіць, шпульку нітак чорных, кнот у лямпу...

— І лемантар новы мне!—з ложку, пастаўленага ў кутку каля печы, нечакана пачуўся тоненькі вясёлы дзіцячы галасок.

— А вой! Яна ўжо ня сьпіць! Ото, выдра!—зьдзівіўся Мікола, і, павярнуўшыся тварам да шасьцігадовай Стаські, весела паабяцаў:—А як-жа, прывязу лемангар, канешне прывязу. Новенькі, з малюнкамі...

Калі бацька выходзіў з хаты, зьняўшы з цьвіка на сьцяне новую пугу-павіванку, Стаська яшчэ раз напомніла яму:

— Тата, глядзі-ж не забудзься: прывязі!

---

Сівыя нізкія хмары з усіх бакоў абцягвалі неба. Сеяўся дробны восеньскі дождж. Халодны вецер нудна шумеў у густым зялёным ельніку, што з абодвых бакоў абступаў вузкую віхлястую дарогу.

Міколаў чорны конік, прабегшы трушком па разьбітай гразкай дарозе пару гоняў, стаміўся. Засопшыся, запарыўшыся, ён павольна цягнуў калёсы. Гразь раздавалася ў бакі пад цяжкімі кутымі коламі. Як толькі кола праяжджала гразь, зараз-жа зноў залівала каляіну густым клейкім цестам.

Мікола дарэмна паганяў каня. На кожны крык і ўзмах пугі стомлены конік адказваў, матаючы галавой і хва-

стом. Ён быццам гаварыў гаспадару: „ну, куды ты мяне гоніш? Хіба-ж ільга бегчы па гэткай дарозе?“

А дарога сапраўды была паганая. Калёсы рыпелі і стагналі, перапаўзаючы праз глыбокія, залітыя гразёю выбоіны. Конік, напружваючы ўсе сілы, ледзь не вырываўся з аглабель. У асабліва гразкіх месцах Мікола злазіў з возу і, плячом падпіраючы калёсы, дапамагаў каню выцягваць іх з гразі.

Самае страшнае месца—крушынавая грэбля—было наперадзе. Гэта быў мост праз невялічкую, але глыбокую рачулку. Мост быў стары. Збудаваны некалькі дзесяткаў год назад. Ён увесь дрыжаў і хістаўся, калі на яго узьяжджала нават парожная фурманка. Улетку сяляне пераяжджалі рэчку проста ўброд каля мосту. Увосень броду ня было: размытыя дажджамі гразкія берагі рэчкі зацягвалі колы калёсаў у глыбокую твань.



Калёсы ня краталіся з месца.

Пад'ехаўшы да мосту, што на крушынавай грэблі, Мікола спыніў каня, а сам пайшоў наперад паглядзець, ці можна тут будзе праехаць. Здалося, што можна.

Мікола вярнуўся да калёс, узяў лейцы ў рукі і пагнаў каня. Конь, цяжка сапучы, напружваючыся, ірвануў воз з месца. Мікола дапамог яму, плячом упёршыся ў драбіны. Пярэднія колы, вылузаўшыся з глыбокай гразі, узьехалі на мост.

— Но-о! Но-о-о! — крычаў Мікола, сьцёбаючы каня пугай.—Но-о! Но-о-о, каб ты здаровы быў!

Калёсы ня краталіся з месца: заднія колы моцна заселі ў глыбокай крывой калдобіне, выбітай пры самым узьезьдзе на мост.

Мікола, упёршыся ў калёсы рукамі, моцна сьцебануў каня пугай.

— Но-о! Ни-о-о!

Конь скочыў наперад, калёсы скрыпнулі, трэснула, пераламаўшыся, драўляная задняя вось. Воз пахіліўся на бок.

Да мястэчка было 15 кілёмэтраў, дадому мала менш—9.

Дома маленькая Стаська нецярпліва чакала бацьку з новым лемантаром.

---

Увесну, як сышоў сьнег, Стаська ўбачыла ў вёсцы нейкіх дзіўных, незнаёмых людзей. Яны, гэтыя людзі, хадзілі па вуліцы, па балоце, па полі, нешта вымервалі, нешта запісвалі ў тоўстыя з чырвонымі беражкамі сшыткі.

На запытаньні цікавых сялян, яны адказвалі:

— Дарогу робім! Што? не разумееце як робім? Нічога Хутка прыдзем да вас па дапамогу.

І сапраўды аднаго разу на сход калгасьнікаў з калгасу „Перамога“ зьявіліся двое з гэтых людзей. Яны растлумачылі калгасьнікам, хто яны — прадстаўнікі Белдарбуду,



Гэтыя людзі нешта вымяралі і запісвалі...

арганізацыі, якая займаецца плянавым будаўніцтвам дарог на Беларусі. Яны гаварылі калгасьнікам пра тое, што насельніцтва павінна дапамагчы дзяржаве будаваць дарогі.

— Гэта робіцца для вашае-ж карысьці: будзе дарога, ня будзеце псаваць коняй, ламаць вазы,—махаючы рукамі гаварыў калгасьнікам тэхнік Белдарбуду.

Калгасьнікі аднагалосна ўхвалілі: дапамагчы Белдарбуду будаваць дарогу.

— Я першы выеду зьбіраць каменьне! —сказаў Мікола Антановіч.—Я першы буду пясок вазіць!

---

Неўзабаве пачалося будаваньне дарогі—шашы.

Абапал будучай шашы капаліся канавы. Калгасьнікі звозілі пад канавы каменьне і пясок. Тэхнікі і дзесятнікі выдавалі калгасьнікам квіткі на атрыманьне грошай за работу.

Здаровыя дзядзькі — рабочыя — разьбівалі жалезнымі малаткамі буйнае каменьне на драбнейшыя кавалкі. Горы бітага каменьня выросталі каля канаў. Канавы роўнымі істужкамі беглі за кругавід. Між імі было няшырокае лагво будучай шашы—карыта.

Калі каменьня было навезена шмат, на дарогу прышлі брукары. Загарэлыя, цэлымі днямі, скурчыўшыся, сядзелі яны на дарозе, маленькімі малаткамі прыганялі камень да каменя, раўнавалі яго, прысыпалі пяском. Яны забрукоўвалі карыта. З-пад змуленых каменьнем рук брукароў выбягала гладкая каменная істужка—шаша. За лета брукары скончылі работу. На зьмену ім прышлі машыны — цяжкія, вялізныя каткі. Яны ўкатвалі дарогу, уціскаючы няроўныя каменьні ў зямлю, прасуючы каменныя істужкі. Каткі працавалі і дзень і ноч; імі кіравалі ўдарнікі.

Увосень дарога была скончана.

---

З поўдня Стаська сядзела каля вакна. Яна чакала бацьку, які павінен быў увечар вярнуцца з кірмашу.

— Дзе той вечар яшчэ! —сьмяялася з Стаські матка.— Вочы да вечара прагледзіш. Бацька яшчэ недзе з мястэчка ня выехаў.



За вакном імжэў дробны восенскі дожджык. Стаська цярпліва сядзела ля вакна і ўглядалася ў мокрую туманную вуліцу.

— Чаму гэта дзень сёньня гэткі доўгі?—дзівілася дзяўчынка.

Нарэшце надышоў вечар. Маці запаліла лямпу. За вакном Стаська нічога ня бачыла: было цёмна.

Позна ўвечары на вуліцы па бруку загрымелі калёсы. Скрыпнулі вароты. Фурманка ўзьехала на двор.

Бацька доўга ня ішоў у хату. Ён парадкаваў калёсы, распрагаў і ставіў у хлеў чорнага каня.

Нарэшце, увайшоўшы ў хату, бацька падышоў да стала. У руках ён трымаў вялікі скрутак.

— Ну, як вы тут?—спытаў ён, весела ўсьміхаючыся.— Не занудзіліся без мяне.

— Цалюткі дзень ля вакна прасядзела, цябе выглядаючы,—матнула маці галавою на Стаську.

Бацька нібы не пачуў матчыных слоў.

— Якраз на адчыненьне шашы ў мястэчковы клюб патрапіў... Толькі ўвайшоў, чую начальнік вучастку гаворыць: „Міколу Антановічу, калгасьніку з калгасу „Перамога“, за ўдарную работу па вывазцы каменьня і пяску на дарогу, за сьвядомыя адносіны да работы“ — на!—і бацька, выняўшы са скрутка новыя бліскучыя боты, кінуў іх жонцы на лаву.—Прэмія!

— А табе,—павярнуўся ён да Стаські,—маеш: летась ён да цябе не даехаў, дык затое сёлета па бруку прыкаціў.

І ён падаў Стасьцы новенькі лемантар з прыгожымі малюнкамі.

# ПАУЛІК МАРОЗАЎ



Паўлік Марозаў — піанэр з вёскі Гарасімаўка. Гэта далёка ад нас на Паўночным Урале, у тайзе.

Глухая вёска Гарасімаўка. Клясавыя ворагі — кулакі— гаспадарылі ў вёсцы як хацелі. Яны зрывалі хлебазагатоўкі, страшылі беднату вайной...

Паўлік быў сьвядомым піанэрам. Ён сьмела выступіў супроць кулакоў.

Разам з другімі піанэрамі вывешваў лістоўкі на хатах зрыўшчыкаў хлебазагатовак, выступаў на сходах супроць кулакоў.

У вёсцы ўсе звалі Паўліка — „Пашка-камуніст". Пачэсная гэта клічка для піанэра! І сапраўды яно было так. У вёсцы Гарасімаўка ня было ні партыйнай, ні камсамольскай ячэек.

І Паўлік змагаўся за новае жыцьцё, як лепшы піанэр.

Увосень мінулага году азьвярэлыя кулакі вёскі зарэзалі Паўліка і яго 9-гадовага брата Хведзьку.

Пралетарскі суд прыгаварыў кулакоў-забойцаў да расстрэлу.

Піанэры і ўсе дзеці савецкай краіны адказалі на гэтую вылазку кулакоў:

— Будзем усе такімі, як Паўлік!

— Будзем змагацца за новае жыцьцё, супроць нашых ворагаў—кулакоў. Будзем добра вучыцца!

# дзелімся вопытам

## Я—УДАРНІЦА ВУЧОБЫ

**Вучуся я ў першай групе 36-й ФЗС (Менск). Усе школьныя заданьні я стараюся выконваць як мага лепш.**

**На занятках я сяджу ціха і слухаю ўважліва, што гаворыць настаўніца.**

**Дома я раней за ўсё рыхтую заданьні, а потым у вольны час гуляю.**

**Я ня толькі рыхтую заданьні, а і чытаю цікавыя дзіцячыя кніжкі. Я стараюся навучыцца добра чытаць.**

**Падрыхтаваўшы заданьні, я складаю ў ранец патрэбныя мне на заўтрашнія лекцыі падручнікі, сшыткі, алоўкі.**

**Я добра і прыкладна вучуся, вось таму я і ўдарніца.**

**Л. РУДАКОЎСКАЯ.**

## ЗМАГАЕМСЯ ЗА ВЕДЫ

Мы змагаемся за тое, каб усе добра вучыліся, каб у школе была добрая дысцыпліна.

Усе вучні ахоплены сацыялістычным спаборніцтвам.

Каб лепей весьці ўлік ударніцтва і сацспаборніцтва, выбраны тры брыгадзіры. Кожны брыгадзір сочыць за тым, каб вучні не пазьніліся, не рабілі прагулаў, каб прыходзілі ў школу чыстымі.

У групе арганізаваны для адстаючых дапаможныя гурткі. Настаўніца і вучні, якія лепей вучацца, дапамагаюць слабейшым. Такі спосаб дапамогі даў добрыя вынікі.

Наша група была лепшаю па вучобе ў першым паўгодзьдзі.

**З. Б—в.**

**Менск, 20 ФЗС**

# УСЕ ВУЧНІ— ЧЛЕНЫ МОПР'у

Мы вучні 1-й групы „А“ 21-й школы хочам расказаць пра сваю вучобу.

Усе мы добра ведаем, што дрэнна быць няпісьменнымі. Няпісьменны ня можа быць і добрым будаўніком сацыялізму.

На занятк і мы стараемся не пазьніцца. Слухаем уважліва, аб чым нам гаворыць настаўніца. Захоўваем добрую дысцыпліну.

Вучні нашай клясы ўжо добра чытаюць, добра лічаць.

Нас знаёмяць з жыцьцём вучняў за межамі. Мы сабралі 9 руб. і 69 кап. у карысьць палітзьняволеных і іх дзяцей. Усе вучні нашай групы ўступілі ў члены ячэйкі МОПР.

САРА КАМЯНЕЦКАЯ
і МІРА ПЕРЭЛЬМАН.

---



ЛЕШЫЯ ЎДАРНІКІ ВУЧОБЫ

*Зьверху ўніз:* 1. Іцковіч Л., 2. Сьліўкіна К., *вучні 1-й групы „Г“. 21-й ФЗС (Менск).* 3. Рудакоўская Л. *вучаніца 1-й групы 36-й ФЗС (Менск).*

# ЯНЫ—ГОРШЫЯ ВУЧНІ

Ёсьць у нашай клясе два вучні: **Цэхановіч Вова і Крэмер Муля**. Яны перашкаджаюць нам вучыцца.

Цэхановіч Вова позьніцца на заняткі. У час заняткаў заўсёды трымае сябе дрэнна. Чытае ён горш за другіх, але не стараецца лепш навучыцца. Лічыць таксама дрэнна.

Сшыткі ў Цэхановіча падраныя, брудныя. Сам брудны. Былі такія выпадкі, калі настаўніца пасылала яго мыцца пад кран. У час перапынкаў Цэхановіч бегае па скамейках і сталох.

Муля Крэмер—таварыш Цэхановіча. Чытаць — крыху чытае, але ня ўмее пісаць. Сшыткі ў Мулі такія брудныя і падраныя, як у Вовы. З вучнямі ў час перапынку б'ецца.

**Менск, 21-я ФЗС**

**МІЦЯ ГОЛЬДМАН.**

# З І М А

**Верш дзяткора Я. Хемчанкі**

**Час марозны, ветры веюць,
Сьнег пушысты сьцелецца,
Сонца сьвеціць, а ня грэе
І шуміць мяцеліца.**

**Шмат прыгод з пушыстым
сьнегам
Прынясьлі марозы к нам.
Мы імчымся лыжным
бегам,
Гэй, дарогу палазам!**

**Сыпле сьнег, мяцель
бушуе.
Чысты, мяккі, ліпкі
сьнег.
Добра ў гэты час
„буржуяў“
Выляпляць пад крык
і сьмех.**

**Гэй, зіма! Ты белы сьнег
нам
Замацуй марозамі,
Каб у вольны час
пабегаць
Лыжнымі абозамі.**

# ГАРБУЗ

**Апавяданьне амэрыканскага піанэра**

Рабочыя і іх дзеці ў нашым горадзе Данавэры жывуць ня лепш, чым у другіх гарадох Амэрыкі.

Аднаго разу я з бацькам ехаў на трамваі. Да нас падышлі два худыя абадраныя хлопчыкі. Яны прасілі нас падарыць ім што-небудзь. Я запытаўся:

— Чаго вы хочаце?

Адзін хлопчык замест адказу нясьмела паказаў рукою на гарбуз. Гэты пабіты, выкінуты гарбуз знайшоў мой бацька на вуліцы і вёз яго для курэй.

Я аддаў ім гэты гарбуз. Дзеці выскачылі з вагона на вуліцу, разламалі гарбуз папалам і тут-жа пачалі яго есьці.

Для нас гэта не навіна. Кожнай раніцай можна бачыць дзяцей і дарослых каля памыйных ям. Яны шукаюць там якой-небудзь пажывы. Адны зьядаюць знойдзеныя брудныя агрызкі там-жа, а другія бяруць з сабою, відаць, для другіх галодных.

Многія дзеці працуюць. Яны вымушаны працаваць таму, што бацькі ня маюць работы. Буржуям выгадней браць на работу дзяцей, бо ім плацяць мізэрныя капейкі, іх праца дармовая. Многія дзеці прадаюць на вуліцы газэты. Ніхто не клапоціцца аб іх вучобе.

У нашым горадзе 40 тысяч беспрацоўных.

Я—піанэр і змагаюся супроць такога жыцьця дзяцей нашага гораду. Я арганізую і другіх дзяцей у піанэрскія атрады. Мы будзем разам змагацца за тое, каб жыць так, як у Савецкім Саюзе.

ЦАНА №—25 КАП.



# ЗРАБІ САМ САНКІ



Вазьмі дзьве дошкі па 65 сантымэтраў даўжынёю, па 15 сантымэтраў шырынёю і 3 сантымэтры таўшчынёю. Кожную дошку з аднаго канца трэба навукас адрэзаць, каб вышаў невялічкі загіб. Гэта будуць палазы. Палазы гладка выгаблюй.

Потым вазьмі яшчэ некалькі дошчачак любой шырыні, даўжынёю па 40 сантымэтраў і прыбі іх зьверху на палазы.

У падрэзаных канцох палазоў пракруці дзірку сьвярдзёлкам і прывяжы вяроўку,—санкі гатовы.

## ШАРАДА

Першае—знойдзеш,
Як у кузьню зойдзеш.
Другое—імя правадыра.

## ПАДУМАЙ

Дадаўшы літару „А",
Ты атрымаеш,
Што цяпер чытаеш.

М. КАЛАЧЫНСКІ

## АДКАЗЫ НА ЗАГАДКІ з № 21—22

1. Калі чалавек едзе бяз білета. 2. Хлопчык аддаў чатыры яблыкі, а ў самога засталося два і кошык. 3. Ад капыла адняць *ка*—астанецца пыл. 4. Венік.

### з № 23

1. ***КСМ***. 2. Правядзеце рыску па лічбах 88 і астануцца нулі. 3. Кот. 4. Дуга. 5. Могуць быць два адказы: ***100*** і ***СТО***. 6. Голка. 7. Друк.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА"

Рэдактар—А. ЯКІМОВІЧ.

Друкарня імя Сталіна Зак. № 340. 7640 экз. Менгарліт № 1440